Тарас Гушча.



# Нёманоў дар.



Пецярбург.
1913.

# Нёманоў дар.

## I.

Уся гэта каша заварылася посьле таго, як сюды прыежджаў стары скарбовы каморнік са сваімі струмэнтамі. Рабілася гэта вясной, скора па Вялікадні.

Я добра памятую, як гэты пан ішоў праз сяло. Дзеці цэлай чарадой шлі за ім праз усю вуліцу, бо такая фацэтная хфігура тут зьяўлялася яшчэ першы раз. Гэто быў стары пан, якіх цяпер мала дзе сустрэнеш. Доўгіе сівые вусы, спушчэные трохі к нізу, прыдавалі строгі выраз поўнаму твару пана каморніка. Круглае пуза так далёка выдавалася ўперад, што пэўне пан не бачыў за ім сваіх кароценькіх ножэк. Усякаму, хто пазіраў на пана, здавалася, што ён не ідзе, а нейк пасовываецца, як бочка на калёсцах. І то яшчэ было цікава, што гэтага пана ніхто не чэкаў сюды і ніхто праве не бачыў,

як ён прыехаў у сяло і спыніўся у лясьніка, што жыў тут на каморы. Праўда, і бачыць было не так то зручна, бо ўсякі знае, што камора, дзе жыў лясьнік, стаяла трохі на атшыбі, там, дзе вуліца села пераходзіць у тры дарогі, так што зьява гэтага старога незнаёмага пана ў зялёным капелюшы с пяром зьдзівіла ўсё сяло. На што ўжо сталая старая цётка Магда, каторую, здавалася, нічога на сьвеці не магло зацікавіць, і тая вышла на вуліцу і, прыпершыся каля слупа варот, доўга агледала пана, залажыўшы рукі пад хвартух. Маладзіцы, несучы ваду на каромыслах, так сама правадзілі вачамі каморніка, як толькі міналі яго, каб лепш разглядзець. Каб гэты пан азірнуўся у той канец, аткуль ён стаў ісьці, то ён абачыў бы селян, каторые то тут, то там стаялі кучкамі і аб чым то гаманілі, паказываючы на яго асобу.

— Хто гэта? Каморнік ці што?—пытаў Казімір Жыбуль, падходзючы да аднэй кучкі.

— Каморнік,—атказывалі селяне.

— Што-ж ён мае тут рабіць?—Ды на гэта пытаньне ніхто ня мог даць толкам атказу, а калі і гаварылі, чаго прыехаў сюды каморнік, то непрыменна ўстаўлялі у сваю гутарку, «мо», але такая гутарка не магла мець характэра на пэўна вядомага.

— Відаць, што будзе мерыць тут негдзе блізка,—сказаў Мацей Дворны.

— Чаму блізка?—спытаў яго адзін с селян.

— Каб далёка, то ён бы ехаў, а ня йшоў.—
— Ну, але,—патакнулі селяне.

А тым часам пан каморнік, мінуўшы манапольку, зьвярнуў на другую вуліцу, ідучы каторай можна дайсьці да Нёмана.

Двое рабочых, каторые нясьлі струмэнты каморніка, і лясьнік, шоўшы на крок ззаду ад яго, схаваліся у другой вуліцы. Туды-ж павярнула і чарада сельскай дзетвары, а сьледам за ею рушылі і селяне. Так за грузкім павуком цягнуцца ўсе павуцінкі, як ён, намеціўшы сваю заблутаную ахвяру, не спешаючыся, стала напраўляе да яе свае цэпкіе лапы.

Трывога селян, зьмешанная з цікавосьцю, расла па меры таго, як каморнік падыходзіў да Нёмана. Усім хацелася, каб каморнік сеў у чаўне і пераехаў на той бок, але нікому гэта ня верылася, кажды быў пэвен у тым, што пан непрыменна паверне налево, туды, дзе у апошніе годы Нёман, як бы зжаліўшыся над селянамі і іх страшэнным сьціскам, зьвярнуў ад села, зрабіўшы шырокую дугу, і адрэзаў ім раскошную луку. Праўда, тут быў сыпучы пясок, але цяпер пясок гэты стаў борзда пакрывацца скарынкою, як маладое цесто у печы, і зелянець смачною травою.

## II.

Страшэнны штукар і свавольнік гэты Нёман. Кожны год ўдзярэ ён якую нібудзь штуку: то выкаціць на чый-нібудзь шнур стары, мокшы векамі ў ім, труп дрэва, то выхваціць цэлую луку у адных і прыточыць другім, або падрэжэ грунт, на каторым доўгімі векамі стаяў асілак-дуб у самай добрай згодзі з суседам—Нёманам. Не знае стрыманьня ён, ня ведае, куды дзець свае магучые сілы. Але ніхто не жаліўся на яго свавольства. А ў нашым сяле яго надта любілі, бо ён для села быў, як родны бацька: і карміў, і паіў, і на сваіх плечах кожнага вынасіў, і кожнага за лета разоў тры у Коўна і Гродна вазіў, ды яшчэ і на дарогу даваў грошы. Праўда, езда па Нёмані на плытах не сусім лёгкая рэч. Ды што лёгка даецца на сьвеці простаму чэлавеку? Нёман быў нэрвом села, каторы будзіў яго жыцьцё і запраўляў чутка прыслухівацца да таго, што робіцца вакруг. І ўсе важнейшые справы былі так ці начэй шчэплены з Нёманам. Тут, на яго беразі, каторы так блізка падхадзіў к сялу, зьбіраліся селяне і радзілі свае рады.

Кожны крок Нёмана, кожны спад ці прыбыль вады ў ім не прахадзілі незамечэннымі для селян. А ў вапошніе годы Нёман задумаў новую штуку: у тым мейсцы, дзе бераг яго датыкаўся аднаго канца села, ён пачаў рабіць заварот, пракладаць новую дарогу, адрэзаючы шырокую луку да сёла. Прабегшы дугою па даўжыне села, ён зноў падыходзіў ўжо да другога яго канца, і далей бег старою дарогаю.

— От бы каго паслаць у Думу дэпутатам!— жартавалі селяне, цешучыся, як Нёман прырэзае ім шырокі разгон,—па крайней меры быў бы дэпутат, бо стаіць за нас!—

Адрэзанная лука борзда засьцілалася зялёнаю травою, і коні з вялікаю ахвотаю ўжо скубалі яе, а селяне радаваліся, што цяпер быў хоць невялікі прыпынак для скаціны. Дык і ня дзіва, што с такою трывогаю пазіралі яны, куды паверне пан каморнік. Падышоўшы пад Нёман, гэты фацэтны пан зьвярнуў налева, як раз у луку. Яшчэ трохі прайшоўшы, ён спыніўся. Рабочые павольна і дэлікатна паклалі на пясок струмэнты, а пан каморнік, дастаўшы скрутак паперы і начапіўшы акуляры, стаў углядацца. Паглядзіць ў паперы, потым на луку; зноў уткнецца носам ды зноў глядзіць перад сабой. Для ўсіх цяпер стала ясна, што на гэту луку скарб хочэ палажыць сваю лапу. Селяне, зьліўшыся у агромную грамаду, павольна пацісьнулі да пана каморніка. Гурт людзей шоў спакойна, як далё-

кая хмара, ды ў гэтым спакою хаваліся бліскавіцы і громы затрыманага гневу. Селяне спыніліся, акружыўшы каморніка тоўстай сьцяной жывых цел.

— Што гэта за цацкі прывёз, пан, сюды?— спытаў каморніка Андрэй Зазуляк, кіўнуўшы галавой на каморніцкіе струмэнты.

— А такіе цацкі, каторымі ты ня ўмееш гуляць,—спакойна атказаў каморнік.

«Глядзі, як рэжэ!» думалі селяне і чэкалі, што скажэ на гэта Андрэй.

— А пан умееш?—зноў спытаў Андрэй.

— Я умею,—увесь век з імі гуляю.—

— То добрая гульня, калі пан нагуляў такі жывот.—

Каморнік зірнуў на Андрэя, і вусы яго заварушыліся. Відаць, хацеў нешта сказаць, але не знайшоў чаго. Ён яшчэ раз сярдзіта лупнуў на Андрэя с пад сівых навісшых броў.

— Адыдзіцеся, мужчыны, бо вы замінаеце мне,—сказаў пан каморнік.

— Што гэта, пан, думае рабіць?—спытаў хтось з грамады.

— Буду праводзіць граніцу і ставіць капцы, каб вы ведалі, дзе скарбовае і дзе ваша.—

— Як?! і скарб хочэ сюды зачэсацца?

— Чаго-ж ён маўчаў дагэтуль. Калі-ж гэта да скарбу тут што належыла?—пасыпаліся пытаньня.

Вядомы ў вёсцэ шутнік стары Ахрым, зьвярнуўшыся да грамады казаў:

— Ніхай бы лепш пан каморнік прыйшоў у маю хату з гэтым дзедом,—тут Ахрым павёў рукой у старану каморніцкага трыножніка—і правёў бы граніцу на печы, а то мы ні як не памяркуемся з Аршулею і ўсё сварымся. Я займу печ ад сьцяны і скажу ей, што гэта частка належыць да скарбу, а яна нехай сабе на чаране прышчыцца.—

Мужчыны зарагаталі.

— От дык стары! калі скажэ што, усё роўна як у сьцену ўлепіць.—

— Чы-ж не праўда?—казаў далей дзед:—скарб хочэ залезьці к нам на печ... Тфу!—плюнуў Ахрым:—сораму ў іх німа!—і старые вочы дзеда сярдзіта заблішчалі.

— Ты сабе плюй, ці ня плюй—мне ўсё адно: не мая гэта бацькаўшчына і не для сябе мераю. Паслалі мяне сюды, і я павінен слухаць. А вы сабе рабіце, як знаеце. Мне ад гэтага німа ніякага прыбытку. Прагонеце мяне, не дасьцё зрабіць работу—вас тут многа, а я адзін—біцца з вамі ня буду.

— Мы да пана нічога і не маем,—пачуліся галасы з грамады.—

Мужчыны адышліся.

— Стаў сабе, пан, капцы, праводзь граніцу. Нехай хоць тысяча капцоў стаіць тут, а гэты берэг як быў наш спрадвеку, то нашым і застанецца.—

Цяпер грамада раскідалася на кучкі. Кожная

кучка мела свайго аратара. Адны гаварылі так, другіе іначэй. Селяне раздзяліліся на дзьве часьці. Меньшая часьць, маладые мужчыны, стаялі за тое, каб не даць каморніку паставіць капцы. Другіе, сталые мужчыны, гаварылі, што так рабіць ня добра, бо ўмешаецца, паліцыя, і ім-же горш будзе. Проці гэтага довада ніхто ня мог сказаць, бо ўсім было на памяці, як гадоў тры таму была спорка з суседнім дваром і як у гэту спорку ўмешалася паліцыя. І ня ўсе яшчэ селяне, каторых тагды арыштавалі, вярнуліся з астрога за супраціўленьне начальству.

А каморнік пад гоман селян рабіў сваё дзела. Як паглядзелі яны на граніцу, то ўсе на момэнт Гразамерлі: уся лука была адрэзана да скарбу. Граніца йшла каля самых платоў, дзе канчаліся агароды і дзе цягнуўся высокі вал голага пяску. У вадным канцы граніцы ўжо быў глыбока ўкопан слуп, як бы ён стаў тут на доўгіе часы. З другога канца ставілі другі капец. Разьмерыўшы, каморнік пашоў назад, за ім рабочые зноў нясьлі струмэнты, а мужыкі, як аглушэные громам, ўсё яшчэ стаялі.

---

## III.

Хітры, злодзі, гэты лясьнік с каморы, дарма, што малады. Як толькі каморнік, забраўшы струмэнты, вышоў з лукі, за ім пашоў і лясьнік, не даўшы і знаку, што яму наўпярод вядомы дальшые пляны селян. Схаваўшыся з іх вачэй, ён спрытна замёў свае сьляды, зайшоў з загуменьня і прытаіўшыся ў кустах недалёка ад лукі, пазіраў, што будуць рабіць селяне, каб потым далажыць у лясьніство.

— Ну, ня зьдзек жэ гэто? — апамятаўшыся, сказаў Андрэй Зазуляк:—залезьці да нас у хату і распараджацца, як дома. Ці-ж ёсьць на сьвеце справядлівасьць?—

— Ха!—махнуў рукой стары Ахрым,—справядлівасьць! Дзе яна, тая справядлівасьць?! Справядліва пасадзілі у вастрог нашых хлопцаў? Справядліва паштрафаваў земскі, як судзіліся за пашу? Выдумалі справядлівасьць, а спытай, на што яе выдумалі, то і не скажуць!—Тут дзед пачаў пералічаць усе здарэньня, дзе з селянамі абышліся несправядліва.

— Але-ж усю да чысьценька луку выкраіў!—

— Ото дзіва! цяпер яна карціць ім: праз два гады тут будзе добры луг, чамуж не прыбраць яго?—

Кожны селянін тут чуў вялікую крыўду. А паўстаўляные каморнікам капцы стаялі, як вартаўнікі скарбовых інтэрэсаў і адным сваім відам прыводзілі ў ярасьць селян, бо капцы гэтые цяпер былі ня простые акапаные слупы, а мелі абліччэ заклятых ворагоў іх.

Доўга стаялі тут селяне з сваею крыўдаю, адзінокіе, закінутые, і нідзе іх вока не знаходзіла апоры і падмогі у гэтай кроўнай несправядлівасьці. Доўга гаманілі і гудзелі яны пад адкрытым небам, як ўстрывожэны вулей, размахівалі рукамі, як лес лапамі у грозную буру. Як трохі ацішэла ўспышка іх гневу, Андрэй Зазуляк вайшоў у сярэдзіну, зьняў шапку і стаў ею махаць. Селяне змоўклі і бліжэй сталі да Андрэя.

— Вот што, хлопцы, скажу я вам. Жалавацца нам німа куды, і ніхто нас не падтрымае, хоць наша і сьвятая праўда. Спытайцеся у старых,— нехай вот скажэ стары Ахрым,—усякі, хто запамятае, скажэ, што гэты берэг быў наш ўласны, такім ён і павінен застацца.

— Павінен застацца і застанецца! Ты праўду гаворыш, брат, Андрэй!—зашумелі вакруг селяне.

— Нехай хоць сто каморнікаў прыежджае сюды,—далей гаворыць Андрэй, —нехай ставяць хоць тысячу капцоў тут, а гэты берэг мы не

упусьцім; гэта дар Нёмана, дарагі дар, і мы павінны шанаваць яго. Зірніце вакруг: тут німа той мясьцінкі, дзе-б не ступала наша нага; кожная пясчынка тут прыгладжэна нашым лапцем; ў гэтым жоўценькім пясочку кожны з нас качаўся, як быў малы. І аддаць гэты бэрэг, ўсё роўна што пазволіць адсеч сабе руку або нагу. Нехай яны ставяць капцы, гэта іх дзела, а мы будзем выкідаць іх,—гэта наша сьвятая павіннасьць.—

Сказаўшы гэта, Андрэй сьмела і цьвёрда рынуўся на капец. За Андрэем паваліў увесь гурт народу. Свежа ўкопаны капец яшчэ не астояўся тут, і цяжкая земля яшчэ ня ўсьпела асесьціся. Андрэй крэпка абняў слупок, упёрся нагамі у зямлю і зрушыў яго. Падскочыўшые селяне выцягнулі яго і паваліли у Нёман. Два мужчыны пабраўшыся за канцы слупка, разгойдалі яго ідалёка шпурнулі ў воду.

— Дар за дар!—сказаў Грышка Астапчук, кінуўшы у Нёман гэты слупок.

Пачуўся пляск вады, узьняўся цэлы сноп пырскаў, і слупок перакруціўшыся раз, другі, спакойна паплыў за вадою.

— Танна ты, брат, лічыш Нёманаў дар,— сказаў Грышку Мікіта Кажан.

— Гэ! можа ён яшчэ што цікавейшае возьме!—сказаў стары Ахрым.

Так зрабілі і з другім капцом, і бераг зноў стаў такі самы, як бы сюды ніколі не заходзіў пан каморнік.

А лясьнік, стоючы у кустох, усё гэта бачыў і чуў.

—Ну, Ганна! Цяпер ты у мяне будзеш крыху мякчейша і ня будзеш так высока задзіраць нос, калі табе хоць трохі шкода бацькі. —Так думаў стоючы малады лясьнік. Давольны і вясёлы, шмыгануў ён ў загуменьне і вышоў у поле з другога канца села.

## IV.

Веснавая цёплая ноч толькі што апранула зямлю і раскідала свае таемные чары, поўные залегка смутнага хараства. Першые зоры ўжо замігацелі то там, то сям у бяздонным небе, а з-за лесу залатым пажаром узьнімаўся кругам блішчасты месяц. Дробные, белые хмаркі высьцілалі яму дарожку сваімі лёгкімі празрыстымі тканямі і разступаліся прад ім, скупануўшы ў яго блеску свае тонкарунные кудры. Пахла земля, багата акропленная расою. У сяле чулася гаворка і песьні. Вясёлые маладые зыкі сьмела ўрэзаліся ў цішыну ночы і бойка нясьліся на рэчку; тут яны упыняліся у высокі берэг, адскаківалі назад і беглі ўдоўж яго па дузе лукі, і заміралі ўжо за лагуном. У лагчыне над Нёманам дружна і заложна крэкталі жабы. Было нешта смутнае і жалабнае ў гэтай простай і аднатоннай іх песьні, што чэпала душу ціхім смуткам, і так сагалосна зьлівалася з маладою задумаю веснавой ночы. Сяло заціхала; зрэдка па вуліцы брыла адзінокая хвігура апазьніўшагося селяніна. Толькі

дзеўчаты яшчэ не спалі і сьпевалі на прызбах песьні.

Накінуўшы на плечы хустку, Ганна, дачка Андрэя Зазуляка, сядзела адна на сваей прызьбе. Часамі яна ўскідала на вуліцу вочы і зьлегка ўздыхала. Зараз жэ каля калодзіжа зачарнелася нейчая хвігура, каторая важна сунулася пасярод вуліцы. У гэтай хвігурэ ня трудна было пазнаць маладога лясьніка. І зух жэ гэты лясьнік! І па ўсім відаць было, што ён стаяў вышэй ўсіх хлопцаў у сяле. Трэба было бачыць, як ён, апрануўшы сваю куртку с касьцянымі гузікамі і закруціўшы вусы, шоў вуліцэю і важна выкідаў нагамі, абутымі у боты з бліщчастымі халявамі. Тагды здавалася яму, што ён падпірае сваею галавою неба і што ім дзівіцца ўсё сяло.

— Добры вечэр, Ганна!—сказаў лясьнік, падышоўшы да дзяўчыны, і працягнуўшы ей руку.

Ганна неахвотна падала яму сваю руку, ціха адказаўшы.

— Добры вечэр!

— Што-ж ты ня просіш мяне прысесьці?—зноў сказаў лясьнік, стоючы перад дзяўчыной і дрыгаючы нагамі у бліщчастых ботах.

— Або ты зьверэдзіўся? Лежаў як вол, увесь дзень.

— Ці-ж толькі тых, хто зьверэдзіўся, просюць садзіцца?—спытаў лясьнік і падняў вышэй адзін вус:—або ты бачыла, як я лежаў?

— Падумаеш, якая цікавасьць, — бачыць, як

ён ляжыць, — сказала Ганна і стала пазіраць у другі бок.

Ну, гэта і Ганна! Уродзіцца-ж такая краля. Цяпер, як сьвет месяца паў ей на твар, лясьнік з мінуту стаяў і не спушчаў з дзяўчыны вачэй.

— Мусіць ты, Ганна, чэкала некаго?

— А ведама, чэкала.

— Каго-ж ты чэкала? можэ мяне?

— Ой, голубе! патребен ты мне, як у мосьце дзірка!

Зьневажэны лясьнік прыкінууся, што ня чуў гэтага і, важна надзмуўшы шчокі—так рабіў пісар у лясьністве — ступіў некалькі крокаў каля прызбы.

— А я хацеў штось сказаць табе, Ганна, але ты такая паненка, што і прыступу да цябе німа.

— Ці-ж ты што людзкае скажэш?—спытала Ганна і засьмеялася.

— Ты ведаеш, што ты у мяне ў руках?— памаўчаўшы, зьнячэўку спытаў лясьнік.

— Я ў тваіх руках? — уськінула Ганна на лясьніка дзіўные вочы.

У сур'ёзнасьці тона, каторым лясьнік сказаў свае апошніе словы, і ў голасі яго пачулася нейкая гразьба, і дзяўчына, у прадчуцьці ня добрага, зьлегка затраслася, і сэрцэ яе заныло. Ды, каб схаваць гэту не ясную трывогу душы, яна спакойна ўжо сказала:

— Што ты хвалька і высока задзіраеш нос

вядома ўсім. Але я не падданая твая і не наложная, і я цябе ніколічкі не баюся. І пристане-ж чэлавек, як слата, нідзе ад яго німа супакою!

— Я не хвалька і наса не задзіраю. Калі і задзірае хто нос, дык гэта ты. Толькі-ж я не прышоў сварыцца с табой. А сварыцца са мной табе ніяк не выпадае. Ты ведаеш, хто сягоньня прыежджаў сюды?

— Каморнік,—хто-ж?

— А ведаеш ты, што зрабілі селяне с тымі капцамі, каторые па яго прыказу былі пастаўлены на граніцы?

— Вон павыкідалі, бо ім там ня мейсца.

— Ага, і ты такая-ж! А ведаеш, пад чыею гэта камандою рабілі селяне? Ведаешь, хто першы даткнуўся рукамі да рубежных знакоў?

— На што мне гэта ведаць? А каб і ведала, то табе не сказала-б.

— Мне казаць ня трэба, бо я сам усё бачыў і ўсё чуў. Мяне то не бачылі, бо я не такі дурны, як яны. Дык ведай жэ, што гэта работа твайго бацькі. Гэта ён падмаўляў і падвучаў дурных мужыкоў. А цяпер яшчэ спытаю цябе: ты ведаеш, што за зьністажэньне рубежных знакоў саджаюць на цэлые годы у вастрог? І гэта ты ведай! Можэ тагды і нос твой ня будзе так высока падымацца ў гору.

Усё гэта лясьнік гаварыў са злою насьмешкою і усё бліжэй наступаў на дзяўчыну. Ганна нізка апусьціла галаву і маўчала, а ў лясьніка

вочы так і гарэлі. Ён бачыў, што на сэрцы у яе смутна, і што яго словы білі па самых балючых яе струнах. Некалькі мінут ён маўчаў. Былі у яго такіе мамэнты, калі ён чуць-чуць стрымовываўся, каб ня кінуцца на дзяўчыну і каб не абняць яе крэпка-крэпка.

— І ўсё, Ганначка, залежыць ад цябе! Скажы мне хоць адно ласкавае слова, хоць зірні на мяне харашэнька, і я ад усяго адступлюся,—гаворучы гэта, лясьнік прыхіліўся да яе і, распасьцершы рукі, хацеў абняць.

— Прэч!—крыкнула дзяўчына і выпрастала свой высокі стройны стан, і адхінулася ад лясьніка.

— Гад!—памаўчаўшы, дабавіла яна.

Лясьнік на крок адступіўся.

— Ну, добра,—сказаў ён.

## V.

З другога канца вуліцы ціха, як цень, йшла высокая хвігура. Пазнаўшы у гэтай хвігурэ Васіля Падбярознаго, маладога прыстойнага дзяцюка, лясьнік схамянууся і хацеў йсьці. Але гэты стрынгаль яшчэ гатоў падумаць, што ён, лясьнік, яго збаяўся. Цяпер лясьнік надта хацеў бы, каб і Васіль быў замешан у гэту справу с капцамі. О, тагды ён сухім ня вышаў бы. Не хадзіў бы ён такім козырам па вуліцы, не шэптаўся-б з Ганною цэлые ночы па цёмных куточках ды і яна не хілілася-б да яго, як лісіца ў полі, як гібкая трава-бярозка да жыцінкі. Васіль так сама ня вельмі паважаў лясьніка. Ужо даўно лежала меж імі чорная цень супольнай ненавісьці. І не раз ужо стыкаліся яны, але покі што справа далей шорсткіх слоў яшчэ не йшла.

— Добры вечэр, Ганна!—сказаў, падышоўшы.

— Добры вечэр! Седай, Васіль,—сказала Ганна і чуць пасунулася, каб даць блізка каля сябе хлопцу мейсца. Васіль сеў. Злосны і зьняважэны лясьнік сядзеў здалёк.

— А! добры вечэр! – абярнуўся да яго Васіль. Ён сумыслу паказаў від, што толькі цяпер заўважыў яго.

— Калі гэта, Васіль, вочы перэсталі служыць табе?—спытаў лясьнік.

— А с таго часу, як ты пачаў насіць сурдут с касьцянымі гузікамі і боты з блішчастымі халявамі,—атказаў Васіль.

— А ты дык надта паразумнеў, як скінуў лапці і ўзлажыў бацькавы боты. Мусіць мае касьцяные гузікі табе вочы колюць?

— А колюць, браце; бо я замечаў, калі хто ў сабе нічога не мае, дык той на сябе цацкі начэпляе.

Лясьнік устаў, пусьціўшы меж вушэй Васілёвы словы і сказаў:

— Добраноч, Ганна!

— Будзьце здаровы.

— Чым мела тут з Васілём лізацца, пашла-б лепей бацьку торбу на дарогу пашыла,—сказаў лясьнік, адышоўшы крокаў пяць, і засьвістаў якуюсь польку.

— Свішчы, свішчы!—сказаў Васіль:—паглядзі ідзі, ці цэлы капцы, а то дарма хлебам кормюць цябе.

— Цябе-б паставіць на мейсцэ капца, то не так скора выцягнулі-б, бо ты доўгі, як шнур,— адсекся лясьнік ужо здалёк.

— Лепей сам стань там, аднак вакансія ёсць!— гукнуў у сьлед яму Васіль і громка зарагатаў.

Ганна і Васіль некалькі мінут сядзелі моўчкам.

— Што ты, Ганна, нешта сягоньня невясёла,— спытаў Васіль дзяўчыну, палажыўшы ей на плячо сваю руку.

— Гэта табе так здаецца, — сказала Ганна, апусьціўшы галаву.

— Ой, не! Ну, зірні-ж мне ў вочы,—не адступаўся Васіль, і блізка прыхіліў сваю галаву да Ганны. Дзяўчына яшчэ больш прыгнулася і пазірала ў зямлю.

— Можэ «касьцяны гузік» скрыўдзіў цябе? А можэ ты не рада, што я прышоў і не даў табе пагаварыць з ім? Можэ ты сярдуеш на мяне, што я сыпаў, яму як прыскам у вочы?

І с кожным пытаньнем голас у Васіля меняўся: то ў ім гучаў малады задор, то чуўся страх утраты любой дзяўчыны.

— Ат! гаворыш німа-ведама што, — сказала дзяўчына:—або ты мяне сягоньня толькі знаеш?— узьняла яна свае мокрые вочы і так глянула на Васіля, што гэты пагляд глыбока прайшоў у яго сэрцэ.

Васілю стала лёгка і добра, і ён пачуў у сабе прыліў вялікай сілы і шчасьця.

— А усё-ж ткі, Ганначка, ты нечага смутна. Ведаю добра, што ў цябе нейкі клопат на сэрцы. Скажы мне, не затаівайся. Мне так весела, хачу, каб і табе было лёгка на сэрцы.

Ганна трохі памаўчала.

— Ведаеш, Васіль, што казаў ён мне?

— Ну, што?

— Ён стаяў у кустох і выглядаў, як выкідалі капцы і бачыў, як тата першы ўзяўся за капец. І яшчэ ён гаворыць, што тата намаўляў людзей зьністажаць рубежные знакі. Ён сярдзіты на мяне, што я ганю яго, і цяпер хочэ далажыць на тату ў лясьніство.

А ведаеш, куды йшоў ён, радзючы мне шыць бацьку торбы на дарогу? Гэта каб я гатовіла бацьку ў вастрог.

— Ня ўжо-ж ён зробіць гэта? Ах, Юда, прадажнік! Не! Гэтага ён не павінен зрабіць! Я злаўлю і задушу яго, калі ён не прысягне мне маўчаць!

Васіль падняўся з прызбы і памкнуўся iсьці.

— Стой, Васіль! Куды ты пойдзеш? Нічога з гэтага ня будзе,—сказала Ганна, узяўшы хлопца за руку, — ён яшчэ не раз прыдзе і будзе страшыць, не так то скора ён адступіцца ад мяне. А за гэты час можна што і прыдумаць. Трэба пагаварыць з татам, што ён скажэ, а пароць гарачку яшчэ рана.

— Чэкаць і ў шапку спаць? — стаяў Васіль на сваём.

— Баюся, Васілёк, каб ты не памог тут, як кашель у хваробе. Не варта мне было казаць табе, Васіль. Які гарачы!

— Як жэ не гарачы? Гэты смрод, Юда, будзе даносы насіць, а яму ніхто ня сьмей і слова сказаць?.. Ну, пачэкай!—патрос Васіль здаравецкім

кулаком у той бок, куды пайшоў лясьнік:— шчасьце тваё, што ўсе хлопцы на плыты пашлі: у гэту ноч табе дрэнна прышлося-б.

А лясьнік, прайшоўшы вуліцу, зьвярнуў к Нёману і пашоў у луку.

Цяпер трудна было знайсьці і тое мейсцэ, дзе стаялі капцы. Доўга хадзіў лясьнік па берэзі. З галавы яго ні на мінуту не выхадзіло прыгожае абліччэ маладой дзяўчыны. І чым больш яна адхілялася ад яго, тым мілей была яна яму і тым мацней прыцягала яго да сябе. Злосьць і крыўда агарнулі лясьніка. Яго так зневажылі, аплевалі. А цяпер седзяць на прызьбі і можэ сьмяюцца з яго. Але не! ён не пазволіць сьмеяцца над сабою! Ён такую удзярэ штуку, што і сам чорт заскачэ ад радасьці! О, ён пакажэ, што такое ён. Усе будуць помніць яго!

---

## VI.

Ніхто на заўтра ня ведаў, хто і калі паставіў новые капцы. І то яшчэ трэба сказаць, што меж селян пайшла глухая гаворка, у каторай чулася нейкая трывога і страх. Усе выглядалі так, як бы ў незабаве часу павінна было штось зрабіцца, і на твару найболей баязьлівых было написана чэканьне чагось то нядобрага. У сяле ўсякіе слыхі, усякая гутарка, каторая вядзецца патайна, без ўсякіх сьведак, скора робіцца агульнай абладай. Здаецца само паветрэ разносіць усё тое, што дзе робіцца і гаворыцца ў сяле.

У гэты дзень як раз прыпадаў Юрый. Яшчэ ня ўсьпела прабудзіцца сяло, а ўжо ўсе зналі, што лясьніку ведома ўсё: ведома, хто выкідаў капцы, ведома, хто што гаварыў і навет думаў,— адным словам, ведаў усё што рабілася ўчора у луцэ. Бадай ня кожны селянін чуў цяпер за сабою, хоць малую, віну і трошкі баяўся. Цяпер селяне пачалі разьбірацца ў тым, што рабілі і што чулі ўчора ў мамэнт абуджэнага ў іх гнева.

«Што-ж?» думалі некаторые: «калі прыежджаў каморнік, ды яшчэ з дакумэнтамі, то пэўне ён не так сабе правадзіў граніцу, а меў нейкі грунт пад сабою». А як цяпер ведалі, што Андрэю можэ прыйсьціся не салодка, то і другіе пападжымалі хвасты і туляліся, каб ня вельмі быць на відоку.

Ды ня ўсе, праўда, так думалі, былі і такіе, — хоць іх было меней,– каторые не баяліся даноса лясьніка, а сьмела стаялі за луку, бо былі цьвёрда пракананы, што гэта лука іх і што новые капцы павінны быць выкінуты вон, як і першые. А на шчот Андрэя гаварылі, што з даносу на яго нічога ня выйдзе. Трэба толькі дружна, ўсею грамадою, калі завядзецца дзела якое, сказаць, што лясьнік удае яго з помсты за тое, што ён ня хочэ аддаць за яго Ганну.

Такіе гутаркі падымалі дух у баязьлівых.

— Вы баіцёся гэтага «касьцянога гузіка»? — гаварыў Васіль Падбярозны, да баязьлівых, — што ён можэ данесьці у лясьніство? А нехай даносіць. Капцы зноў стаяць. Што-ж? нехай ён начэпіць гузікаў яшчэ ззаду; можэ тут, сярод вас, ёсьць яго пріяцель, — нехай ён пойдзе да яго і скажэ, што я, Васіль Падбярозны, усё роўна павыкідаю гэтые капцы к чортавай матары; гэта яго работа, і я ведаю, куды цэліў ён, стаўляючы іх у ноччы. Толькі-ж нехай ён ведае, што калі пасьмее разявіць рот, каб удаць мяне, то я яго разам з капцамі ўтаплю ў Нёмані. Нехай ён гэта ведае і помніць.

Апошніе словы Васіль сказаў ужо ў злосьці, і кулакі моцна згарнуліся, а сам ён прайшоўся грозна, як бура. Селяне проста любаваліся, пазіраючы на Васіля — такі ён маладзец: высокі, плячысты і такі сьмелы.

---

## VII.

Сонцэ ўжо было на заходзі.

За сялом у полі вакруг агню гуляла цэлая чарада дзеўчат, спраўляючы расу. Недалёка ад агню на камяні стаяла пустая скваролка і ляжала некалькі дрэўляных відэльцаў. Тут-жэ, за камянем, стаяў не вялічкі глячок ад гарэлкі, цяпер пусты і па рыльцэ ўкопаны ў зямлю: дзеўчаты схавалі яго, каб часам сюды не зірнуло цікавае вока якога-нібудзь маладога гульца і не раскрыла іх патайнай выпіўкі. Тут жэ валяліся лупінкі ад яечэк, як сьлед таго, што дзеўчаты пяклі яечню. Дзеўчаты вясёла сьпевалі песьні і скакалі па жыці, каб яно лепш расло і радзілася.

— Мне сягоньня так вясёла, дзеўчаткі, так вясёла, што і сказаць трудна! Мусіць, я буду плакаць,—гаварыла Ганна.

— Каб у нас быў такі Васіль, то мы бы не зналі, на каторую нагу і ступіць, — жартавалі дзеўчаты,—дзіва, што ей вясёла.

— От, Ганначка, якая ты шчасьлівая: і Васіль цябе любіць, і лясьнік, усе. Хоць бы ты мне аддала гэтага лясьніка,—жартліва шчэбетала Ка-

цярына:—ён хоць і не надта харошы, але-ж сурдут яго чаго варты!

І дзеўчаты аж захадзіліся ад сьмеху, перабіраючы костачкі хлопцаў.

— А, паралюш іх бяры з хлопцамі! давайце, дзеўчаткі, лепш сьпеваць. Ганна, зачынай!

— А і праўда, будзем сьпеваць, — сказала Ганна.

Дзеўчаты сталі ў кружок, пабраліся за рукі, а Ганна хадзіла ў кругу зь вянком на галаве, сплеценым з першых красак. І сама яна была, як краска: навет дзеўчаты любаваліся яе прыгожым тварам, доўгімі цёмнымі косамі і стройным станам.

Але песьня зараз абарвалася.

— Ціха! ціха!—закрычала адна дзяўчына такім праразьлівым голасам, што ўсе папалохаліся і перэсталі сьпеваць. З пад Нёмана нёсься трывожны крык селян і чуўся плач жанок; усе гэтые зыкі зьліваліся у страшную музыку якогась нешчасьця.

Дзеўчаты страшна перэпалохаліся. Ганна не магла прамовіць і слова. Сэрцэ яе білася моцна, моцна. Яна страшна збляднела і прысела на зямлю.

— Ой, галубачкі! забілі некага! — загаласілі дзеўчаты і кінуліся кулём туды, адкуль несься крык. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## VIII.

Узяўшы стрэльбу, лясьнік з каморы яшчэ ў дзень пашоў пільнаваць капцы, каторые ён сам і паўстаўляў. А ўстаўляў ён іх у надзеі укачаць Васіля і замешаць яго ў справу з капцамі, бо ведаў гарачую натуру хлопца. Васіль жэ, убачыўшы рана капцы, зразу дагадаўся, чыя гэта работа і для чаго яна зроблена. Абодвы хлопцы бачылі адзін другога наскрозь. Не было ніякога сумленьня, што яны памагалі адзін аднаму і тым рабілі лягчэйшым сваё спатканьне, бо аднаму і другому даўно ўжо хацелася сыйсьціся на чыстым плёсі і зьвясьці рахункі. Нікому не гаварыў Васіль аб гэтым, бо баяўся перашкоды. Дык ён быў асьцярожны. Як трохі гутарка меж селян заспакоілася, Васіль на зьмерканьні вышоў ціханька з хаты, зайшоў на прыгумень, адтуль, пералезшы плот, пайшоў загуменьнем і вышоў з другога канца села на берэг Нёмана туды, дзе стаялі капцы. Лясьнік пахаджываў недалёка ад іх. Убачыўшы Васіля, ён спыніўся.

— Чаго ты снуеш тут? — спытаў Васіль лясьніка.

— А вот пільную капцы, каб часам які прахвост зноў не павыкідаў іх,- дзерзка атказаў лясьнік.

— А скажы ты мне, браце, хто ўстаўляў іх?

Гаворучы так, хлопцы схадзіліся ўсё бліжэй і бліжэй.

— Разумные кажуць, што каморнік, а дурэнь можэ начэй як скажэ,—ня ведаю,—атказаў зноў лясьнік.

— А ў сяле не так гаворуць,—кажуць: ў дзень капцы ставяць каморнікі, а ў ноччы—паршыўцы.

З гэтымі славамі Васіль рвануў слупок і з страшэннай сілай павярнуў яго да сябе. Слупок падаўся, комлём прарэзаў жоўты пясок і вывернуўся на верх.

Тут вышла тое, чаго лясьнік і сам ня думаў: яго як бы што таўхнула і кінула на Васіля. Ў вадзін скок ён апынуўся каля праціўніка і са ўсей сілы трэснуў яго па галаве. Васіль закачаўся, але астаўся на нагах. Уся кроў прыліла яму ў твар.

— А я думаў, што ты такі сабака, каторы кусае спатайка,—сказаў Васіль заляпіўшы назад такую аплявуху, ат каторай у лясьніка пасыпаліся з вачэй іскры і кроў лінула праз вушы. Лясьнік асунуўся і упаў на зямлю. Потым ён ў вадзін міг падняўся, схапіў стрэльбу, каб узьвесьці брамку. Васіль не даў яму на гэта часу, як зьвер наскочыў на яго, вырваў з рук стрэльбу і шпур-

нуў яе у Нёман, і меж імі пачалася сьмяротэльная бойка. Кожны напрог апошніе сілы і не падаваўся. Васіль быў шмат дужэйшы, а лясьнік быў спрыцен, як чорт, так што праціўнікаў можна было лічыць роўнымі. Ад страшэннаго натужэньня жылы іх ўздуваліся і трэшчалі косьці. Доўга бароліся яны, чуць не пакалена улазячы ў пясок. Яны крэпка паўплётываліся адзін у другога рукамі. Быў мамэнт, у каторы здавалося, што яны нічога ня робілі, а адпачывалі, але гэта былі мамэнты, у каторые шла найбольшая работа іх сілы і каторые рэшалі бойку. Лясьнік слабеў усе болей і болей і чуў, як сіла яго пакідае. Тузаючыся, яны ўсё бліжэй і бліжэй падступаліся к берэгу. А берэг у гэтым мейсцы быў высокі, абрывісты, а ўнізу пад ім пеніўся глыбокі вір. У канцы Васіль крэпка здушыў лясьніка і падняў яго ўпол. Цяпер ён мог рабіць з лясьніком усё, што хацеў.

— Прысягні мне, што ня будзеш займацца даносамі!

Але лясьнік злаўчыўся, высьлізнуў з рук Васіля і уперся нагамі у дол. Тут ён упершыся нагамі, таўхнуў Васіля. Байцы перэступілі граніцу берэга, дзе ўжо ня можна было спыніцца і яны, упаўшы, пакаціліся адзін чэрэз аднаго у вір. Скачывачаючыся, Васіль разьбіў галаву аб вострый камень. Абодва ўкінуліся ў ваду.

Каб яшчэ поўмінуткі, такога-б нешчасьця не зрабілася, бо вот-вот набеглі мужчыны, але прыбеглі

тагды, як абодвых круціў ужо са страшнай сілай вір.

Мінут праз колькі іх выцягнулі бусакамі.

Васіль быў мёртвы, а лясьніка удалося адкачаць.

**Тарас Гушча.**

20—31/1—1912.